

# УСЕ НА ВЫБАРЫ!

У Рэспубліцы Беларусь на 16 траўня 1998 году прызначаныя выбары прэзыдэнта. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі патрымлівае пастанову Вярхоўнага Савету гэтае краіны аб правядзеньні галасаваньня па абраньні новага кіраўніка дзяржавы. Дэпутаты верхняе палаты—Рады Рэспублікі Нацыянальнага Сходу БНР выказалі спадзяваньне, што новы кіраўнік Рэспублікі Беларусь збочыць вэктар зьнешняе палітыкі зь інтэграцыі з Маскоўшчынай на ўзьяднаньне з братняю Беларускаю Народнаю Рэспублікай. Грамадзяне РБ, што ў дзень правядзеньня выбараў апынуцца на тэрыторыі БНР, змогуць выявіць сваю волю на абраньне прэзыдэнта ў будынку амбасады Рэспублікі Беларусь.

## НАРОД СЬПЯВАЕ ПРА СЯБЕ

"РБ" вырашыла падтрымаць ініцыятыву Народнага Сакратарыяту Беларусі па выпрацоўцы новага гімну й ладзіць конкурс прыпевак, прымеркаваны да 17 верасьня, калі ўся краіна будзе сьвяткаваць сьветлую 60-ую гадавіну ўзьяднаньня Ўсходняе Беларусі з сваёй народнай дзяржавай. Таму й тэма конкурсу не гучыць канкрэтна, а менавіта: пішыце ўсё пра Беларусь, ейны дзень учорашні й сяньняшні, а мы па магчымасьці абяцаемся друкаваць. Пераможца конкурсу атрымае дзяржаўную ўзнагароду—мэдаль "Вацлава Ластоўскага" ў галіне літаратуры. Свае працы дасылайце на адрас: 220030 Менск а\с 169 "Радавая Беларусь" з пазнакай *"На конкурс"*.

Пакуль прапануем увазе чытача нядаўна атрыманыя прыпеўкі. Яны прыйшлі да нас з-за мяжы, з Рэспублікі Беларусь, і адлюстроўваюць мясцовыя палітычныя й жыцьцёвыя рэаліі:

***

Каб ня трапіць пад расейскі БТР—
Запішыся ў грамадзяне БНР!

***

Лукашэнку давяраю—
Нас з Расеяй паяднаюць:
Хай сынок мой любы едзе
На Каўказе ваяваць!

***(баба Валя п. Навінкі Мінскі р-н)***

## КОНКУРС НА НОВЫ ГІМН РЭСПУБЛІКІ

Згодна з пастановаю Народнага Сакратарыяту Беларускае Народнае Рэспублікі зь 1 студзеня 1999 году абвешчаны конкурс на новы гімн дзяржавы, што мусіць скончыцца 17 верасьня у гадавіну ўзьяднаньня Ўсходняе Беларусі (Смаленшчыны й заходняе Браншчыны) з БНР. Патрэба ў новым гімне насьпела даўна, стары тэкст Макара Краўцова "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" састарэў, бо адлюстроўвае падзеі васьмідзесяцігадовае даўніны, калі толькі адбывалася станаўленьне нашае адроджанае дзяржавы. Зь пераходам на рэйкі мірнага будаўніцтва патрабаваўся й гімн, які быў бы актуальным для новага часу, але толькі зараз распачынаецца праца па выпрацоўцы ягонага тэксту. Варыянты гімну будуць пэрыядычна друкавацца ў "РБ", а ў верасьні лепшыя тэксты мецьмуць вынесеныя на ўсенароднае галасаваньне. Грамадзяне Рэспублікі ўжо пачалі адгукацца на ініцыятыву беларускага Ўраду, што сьведчыць пра іхнюю неабыякавасьць да лёсу галоўнае песьні краіны.

Народны паэт Беларусі Дзед Карней адным зь першых пачаў працаваць над тэкстам гімну. У інтэрвію "РБ" ён заявіў: "Хачу стварыць тэкст, які адлюстроўваў бы мары й памкненьні нашага народу, а гэтаксама асновы дзяржаўнага ладу Рэспублікі, як падвалінаў незалежнага йснаваньня Беларусі". Гэтым разам прапануецца фрагмэнт тэксту Дзеда Карнея "Пра пашпарт":

***

Я дастаю з нагавіцаў шырокіх
Ня гумкі, ня жуйкі, ня бублікі
Чытайце, зайздросьце: я - грамадзянін
Беларускай Народнай Рэспублікі.



## У СЬВЕЦЕ

### УЗЬЯДНАНЬНЕ БРАНСКУ

20 студзеня, на паседжаньні Бранскае гарадзкое думы дэпутаты падтрымалі прапанову свайго калегі з блёку "Яднаньне" Гальляша Дубасіла скіраваць прэзыдэнту Маскоўскае Рэспублікі зварот з просьбаю дазволіць правесьці на абсягу гэтага самага заходняга гораду Маскоўшчыны рэфэрэндум па пытаньні ўзьяднаньня зь Беларусяй і ўваходжаньня ў склад Гомельскага ваяводзтва Беларускае Народнае Рэспублікі. Гараджане даўно выказваліся за вяртаньне ўва ўлоньне свае Бацькаўшчыны-маці Беларусі, а гэтаксама яшчэ ў 1922-ім годзе дамагліся замены расейскае мовы на беларускую ўва ўсёй сыстэме адукацыі й дзяржаўнага справаводзтва гораду й раёну. Рэакцыя на гэтую ініцыятыву з боку прэзыдэнта Маскоўшчыны невядомая. Галава нашае краіны Алелька Цыбулька заявіў, што Рэспубліка сёньня яшчэ не гатовая да прыняцьця Бранску пад свой сувэрэнітэт і дадаў, што гэтае пытаньне можа быць разгледжанае толькі па скончаньні эканамічнага крызысу й наяўнасьці вынікаў усенароднага галасаваньня ў Бранску, калі гэткае ўхваліць кіраўнік Маскоўскае дзяржавы.

### ПЕРАМОГА НАРОДНАЕ ДЭМАКРАТЫІ Ў ТУВЕ

Нязгаснае полымя народнае дэмакратыі зноўку зазьзяла над гэтай краінай, што месьціцца паміж Буратыяй і Казахстанам. IX Надзвычайная сэсія Малога Хуралу X скліканьня Народнае Рэспублікі Тану-Тува 19 студзеня вярнула моц канстытуцыйнага закону пастанове Ўсетувінскага Ўстаноўчага Хуралу ад 14 жніўня 1921 году, згодна зь якою краіна абвяшчалася сувэрэннаю Народнаю Рэспублікай. Хан Тувы Чой Бал Сан II, які з дапамогай Маскоўшчыны 17 жніўня 1944 году ажыцьцявіў дзяржаўны пераварот і адрадзіў фэўдальную манархію, напярэдадні, 15 студзеня, сканаў ад выбуху пэтардаў пад ягоным вазком, што ў складзе ханскага поезду скіроўваўся ў бок Масквы па чарговы ярлык.

РАДАВАЯ БЕЛАРУСЬ

Заснавальнікі–Народны Сакратарыят Беларускае Народнае Рэспублікі й Рэдакцыйная Рада

*Наш адрас: 220030, Менск а/с 169*

Галоўны рэдактар

Вітаўт ДЗІДА